Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 5 Серада, 16 Ліпня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС



Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 20 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Два шляхі.

Цяпер, калі ў Сойме разрашылася справа аб карыстаньні намі, беларусамі, роднаю моваю ў школах і ўрадовых інстытуцыях, для нас надта важна, якую пазыцыю ў гэтым пытаньні занялі нашыя прадстаўнікі народу.

Гэтая пазыцыя — абсолютна непрымірымая да ўсяго таго, што ідзе з польскага боку; навет і тады, калі ідзе штось добрае, абсолютна ня можа мець апробаты з боку шырокіх мас беларускага грамадзянства. Няшчасны Рыскі трактат, паміма волі народу разарваўшы жывое цела Беларусі на дзьве часткі, аддаў нашу частку беларускай тэрыторыі Польшчы. І так ці гэтак, а нам прыходзіцца цяпер лічыцца з гэтым палажэньнем і старацца як-небудзь урэгуляваць нашыя узаемныя адносіны. Непрымірымасьць тут нічога не паможа. Пэўныя кірункі беларускай палітычнай думкі, куды ўваходзіць і Пасольскі Клюб, гэтую непрымірымасьць паставілі за прынцып і ўсіх тых, хто з імі не згаджаецца лічаць ворагамі беларускага народу. Але трэба ад'значыць, што якраз такога напрамку у тоўшчы беларускай масы няма. Сялянства, з якога складаецца галоўная маса беларускага насяленьня жадаець якнайхутчэй стаць на ногі і залячыць раны, якія яму нанясла сусьветная і польска-бальшавіцкая вайна.

Можна смела сказаць, што ні на якія „палітычныя ўстрасеньні“ сялянства не пайдзе. Так што тыя кіраўнікі беларускай палітычнай думкі якія думаюць, што прызывамі да хатняе вайны ўтрымаюць уплывы на народную масу і вернуць утрачаны аўторытэт — мыляцца.

Польская констытуцыя забясьпечвае нам досіць свабоднае разьвіцьцё нашых нацыянальных, як культурных так і палітычных, жаданьняў. Нашым прынцыпам цяпер павінна быць,—апіраючыся на польскую констытуцыю, урэгуляваць нашае нацыянальнае пытаньне ў гэтым краі.

Можна спадзявацца, што да гэтай спакойнай, але творчай працы прымкне ўсё ўмяркавана настроенае грамадзянства.

Бо хоць і стварылася цяпер опінія, што беларуская народная маса настроена рэвалюцыйна, але такая опінія—гэта рэзультат дэмагогіі, якую праводзіць карыстаючыся пасольскаю трыбунаю і сваею прэсаю цесны гурток палітыканаў, прэтэндаваўшых на адзіных кіраўнікоў беларускай палітычнай думкі.

*В.*

## Пазыцыі соймавых фракцыяў у нацыянальным пытаньні.

Хоць дыскусія ў Сойме Польскае Рэспублікі над законамі аб ужываньні нацыянальнымі меньшасьцямі свае роднае мовы ў школах, судох і адміністрацыйных урадах закранула наш беларускі рух у агульным выраашаньні проблемы трох нацыянальных меньшасьцяў Польшчы, аднак для гісторыі нацыянальнага руху беларускага вельмі цікава хаця з большага зафіксаваць пазыцыі розных фракцыяў Сойму (асабліва польскіх) у падходзе за разьвязкі набалеўшага пытаньня першаразраднае вагі.

З прабегу вышэйсказанае парлямэнцкае дыскусіі выявілася, што паміж *польскімі* групамі—лявіцаю і правіцаю—быу зроблены пэўны компроміс, раскрыты з соймавай трыбуны павадыром партыі „Вызволене“ Станіславам Тугутам.

Трэба дагадвацца, што компроміс паміж партыяй Тугута і эндэцкімі кругамі Станіслава Грабскага адбыўся не без маўклівае згоды Польскае Социялістычнае Партыі (P.P.S.).

Будучы дакладчыкам у Сойме па пытаньню аб языковых законах, п. Тугут, відочна, проста ад сябе зазначыў, што *„запрапанованыя законы не ахапляюць цэлага пытаньня... і што „законы якія разважаем, зьяуляюцца толькі пачаткам разрашэньня пытаньня, надта дразьлівага і важнага для Польшчы“*. Аратар выразна запротэставаў проці таго, быццам языковыя законы рабіліся на экспорт (вываз за граніцу) дзеля задаваленьня Лігі Народаў.

Лідэр тае часьці фракцыі „Вызволеня“, якая адтрымала мандаты галасамі нашага беларускага, пераважна каталіцкага, сялянства пасол **Хомінскі** ад імя „Вызволеня“ і „Народнае Еднасьці“ („Wyzwolenia“ і „Jedności Ludowej“) падаў дэклярацыю, што найрацыянальнейшым дакананьнем нармальнага сужыцьця народаў Рэспублікі, зьяўляецца *правядзенне шырокае тэрыторыяльнае аутаноміі*. Лічачы аднак, што разважаныя законы зьяўляюцца першым крокам на шляху да ўрэгуляваньня нацыянальнага пытаньня, лідэр нашага „крэсовага“ „Вызволеня“ заявіў, што вызваленцы будуць галасаваць за прыняцьце законаў.

Прыкрая для Ст. Грабскага, няпрызнаўшага дасюль існаваньня *украінцаў* у Польшчы, папраўка п. Хомінскага зьмяніць усюды назоў *„рускі“* на „украінскі“ (язык) а калі-б гэта не прайшло, дык — на *„русінскі“*, а ў скобках *„украінскі“*, калі-б навет і гэта не прайшло — пакінуць *„русінскі“* без дадатку,— гэткая папраўка часткаю прайшла ў галоўным, другім чытаньні і зьяўлялася нічым іншым, як хітрым тактычным ходам вызваленцаў, каб хоць крыху адхрысьціцца ад сваіх рэакцыйных саюзьнікаў.

Лідэры пэпээсаў (соц. польск. партыі) пайшлі шмат далей у сэнсе папраўак. Пасол *Недзялкоўскі* выступіў па законах аб мове меншасьцяў у судох і ўрадах, а пасол *Чапінскі* па школьнаму пытаньню.

Папраўкі Чапінскага да школьнага закону коратка выглядаюць гэтак:

1) адчыняць урадовыя пачатковыя школы для беларусаў, украінцаў ці літоўцаў па трэбаваньню 30-цёх бацькоў вучняў аднае з гэтых нацыянальнасьцяў, а не 40, як проектаваў урад;

2) абсаджаваць вучыцельскія і адміністратарскія школьныя пасты асобамі беларускага, украінскага ці літоўскага паходжаньня ў прапорцыі, адпаведнай ліку гэтых нацыянальнасьцяў;

3) установіць у Міністэрстве Прасьветы пасаду дзелавода для беларускае і украінскае нацыянальнасьцяў, назначыўшы на гэты пост беларуса альбо украінца;

4) не зьмяншаць ліку тых, якія істнуюць, школаў з няпольскаю выкладоваю моваю;

5) якнайхутчэй унясьці ў Сойм проект аб Украінскім Увівэрсытэце ў Львове, а таксама й проект закону аб нямецкіх школах;

6) прынцыпіяльным тыпам дзяржаўнае школы лічыць *школу нацыянальную ў духу культуры кожнае з нацыянальных меншасьцяў*, а не *двумоўную* школу, як проектуе урад.

Ад прыняцьця гэтае апошняе папраўкі п. Чапінскі ўзалежніў галасаваньне яго клюбу за школьны проект.

Папраўкі пэпээсаў былі адкінены.

Што пэпээсы выказваюцца за тэрыторыяльную аўтаномію славянскіх меншасьцяў аб гэтым у нашай газэце ўжо пісалася.

Прадстаўнік фракцыі заможнага сялянства (Польская Народная Партыя „Пяст“) пасол *Кернік* досіць няясна выразіў сваю пазыцыю ў нацыянальным пытаньні, заяўляючы, што законы аб мовах ня маюць палітычнага характару, ня маюць характару разрашэньня нацыянальнай барацьбы, але заспакояць рацыянальныя патрэбы су-грамадзян, будучы вялікім крокам наперад. Зьвярнуўшыся ў бок беларускіх і украінскіх паслоў п. Кернік выказаў надзею, што насяленьне будзе задаволена з законаў і трэ'будзе паразумецца з насяленьнем *праз галовы яго прадстаўнікоў*.

Сам п. *Станіслаў Грабскі*, як відаць, фактычны аўтор разгляданых законаў, як і левы яго колега па спроектаваўшай іх урадовай каміcіі п. Тугут, запярэчыў таксама проці думкі, быццам законы гэтыя запранованы пад націскам звонку, націскаючы на прынцып *двумоўнае* школы, якая нібыто выхавае маладое пакаленьне здольным да згоднага сужыцьця Паляка, Русіна, (па тэрміналёгіі п. Грабскага) і Беларуса.

Калі проста кінуць вокам на выступленьні ў Сойме *польскіх* партыяў, дык нельга ня спыніцца над тым, што ідэолёг польскага нацыяналізму Ст. Грабскі, ў духу якога ішла дасюль польская нацыянальная палітыка, ясьней кажучі поўнае нэгаваньне інтарэсаў нацыянальных меншасьцяў, — гэты п. Грабскі *пакрысе здае...* аб чым не прамінулі галасва загаварыць пэпээсы, як у Сойме, так і ў сваёй партыйнай прэсе.

Ад п. п. Тугутаў і Чапінскіх залежыць вытрымаць свае пазыцыі ў нацыянальным пытаньні да канца і *даказаць рэальна*, што далейшія крокі ў кірунку вырашэньня нацыянальных пытаньняў ў Польшчы базумоўна надайдуць.

Выступленьні ў Сойме самых прадстаўнікоў зацікаўленае стараны- нацыянальных меншасьцяў мелі характар дэманстрацыі за вынаткам нямецкага пасла Утты, заявіўшага, што кіраўніцтва школьнаю справаю нацыянальных меншасьцяў трэба перадаць ў рукі самых мэншасьцяў.

Не выстаўляючы ніякіх конкрэтных контр-прапазыцыяў нашыя беларускія, украінскія, а таксама і жыдоўскія паслы высоўвалі простую формулу пераходу да парадку дня.

Новыя законы прыняты вынятково польскаю большасьцю Сойму проці галасоў паслоў усіх нацыянальных меншасьцяў, не, вылучаючы украінскае групы сьвяшч. Ількова і адзінага расейскага пасла Сярэбранікава, запротэставаўшага перад Соймам проці школьнага закону, абмінуўшага саусім расейцаў.

Рэзультатам прыняцьця законаў у другім чытаньні толькі палякамі

ліку жыхароў а таксама і да ліку тых, што маюць працу, рабочых, найбольшае безрабоціца пануе ў Ленінградзе (бышым Петраградзе).

Паводлуг офіцыяльнае статыстыкі лік безработных у 1923 годзе пабольшаў на 75%. На 1 студня 1923 году безработных было 74.072, а на 1 студня 1924 году — 127.705. Агульны лік занятых працаю рабочых у Петраградзе ў працягу 1924 году дасягаў maximum 148.117. Лік безработных у працягу 5-цёх месяцаў 1924 году павялічыўся на 20%.

Характарны пэрыяд часу, ў які рабочыя не маглі знайсьці працы: 25,3% іх не працуюць ужо ад 6-цёх месяцаў да 1-га году, 25% — ад 3 да 6 месяцаў, 16,2% ад 1 да 3-х месяцаў, 6,6% ніжэй аднаго месяца, 16,9% не працуюць больш, як год.

Вышэйпаказаныя цыфры бяром з тутэйшае польскае газэты „Słowo“ рэдакцыя якое робіць увагу, што дастаўлены яны пэўным -прыяцелям яе з Масквы церазь „аказію“.

*С.*

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

— 10-га гэтага ліпня Сойм прыняў законапроекты аб правох нацыянальных меншасьцяў карыстацца роднаю моваю ў судох, адміністрацыйных інстытуцыях і школах.

— 9-га ліпня гэтага году на аднэй з варшаўскіх вуліц быў невядомым чалавекам пабіты палкаю па галаве другі сэкрэтар пасольства Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік Казімер Кабэцкі. У той самы дзень Міністар Затранічных Справаў п. Замойскі пабываў у савецкага пасла Оболенскага, выразіўшы апошняму жаль ад імя польскага ўраду з прычыны зьнявагі сябра пасольства ССРР.

— Пасол Балін (беларус) з польскае партыі „Вызваленьне“ пасьля паседжаньня Сойму 9-га гэтага ліпня прачытаў на сходзе пасольскага клюбу „Вызваленьне“ заяву аб выхадзе яго і пасла Шакуна з партыі.

— У працягу гэтага лета ўрад Польшчы замерваецца вясьці падгатаваўчую працу над законапроектамі аб нямецкай і жыдоўскай нацыянальных меншасьцях.

— Міністэрства Заграпічных Справаў запрапанавала бышаму дырэктару палітычнага департамэнту п. Кэнтржынскаму заняць пасаду польскага пасла ў Празе (Чэхаславакія).

— Пасольскі клюб украінскіх хлебаробаў на чале з сьвяшч. Ільковым мае ўвайсьці ў агульны клюб украінскіх паслоў.

— У польскіх ўрадовых кругох ходзіць погаласка аб рэконструкцыі кабінэту.

— У панядзелак прэм'ер Грабскі пабываў у Маршалка Сойму Ратая і заявіў яму, што Прэзыдэнт Рэспублікі пакінуў за ім вольнае рашэньне, ці сэсія Сойму мае быць зачыненай у ліпні, ці прадоўжанаю.

— На паседжаньні сэньёрэн-конвэнту Сойму пастаноўлена закончыць цяперашнюю соймавую сэсію 18 гэтага ліпня, а ў канцы месяца склікаць адно паседжаньне Сойму дзеля разгляду магчымых сэнацкіх паправак.

## За граніцаю.

— Ангельскае Міністэрства Заграцічных Справаў паведаміла, што міжсаюзная конфэрэнцыя пачнецца ў Лёндане 16-га гэтага ліпня а 11 гадз. ўдзень. Конфэрэнцыю адчыніць ангельскі прэм'ер Мак-Дональд.

— Падчас выступленьня на трыбуну французскага Сэнату быўш. прэм'ер-міністар Пуанкарэ быў прывітаны воклікам: „хай жыве мір, далоў вайну!“. У сваёй прамове Пуанкарэ даводзіў злую волю Нямеччыны ў тым ухіляньні яе ад спаўненьня сваіх абавязаньняў, якое дасюль заўсёды істнавала.

— Бэрлінская нямецкая прэса з нездаваленьнем прыняла вестку аб паразуменьні Англіі з Францыяй датычна лёнданскае конфэрэнцыі. Нямецкая прэса скардзіцца на вельмі шырокую компэтэнцыю рэпарацыйнае камісіі.

— Пры сэквэстры маемасьці скарбніка італьянскае фашыстаўскае партыі Марынэлі выясьнілася што яго банкаўскі рахунак дасягае 7 мільёнаў ліраў. Марынэлі арыштованы па абвінавачаньню ў забойстве соцыяліста Маттэотті. Прадстаўнік фашыстаўскае партыі дамагаўся звальненьня з пад сэквэстру грошай Марынэлі, як партыйнае ўласнасьці, але гэта не ўдалося.

— Югаславянская рада міністраў пастанавіла не паднімаць на конфэрэнцыі Малое Антанты пытаньня аб прызнаньні саветаў de jure, пакуль Англія і Францыя не ўрэгулюе сваіх адносін з С. С. Р. Р.

— Кандыдатам дэмократычных партыяў на пост прэзыдэнта Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў выбраны Давэс, адтрымаўшы ў 102-м галасаваньні 415 галасоў.

— Прэзыдыум украінскага радавага ўраду пераіменаваў гор. Елісаветград у Зіноўеўск.

— У Італьянскім парлямэнце пасол Саляндра стварыў лібэральную фракцыю, разьбіваючы гэтым фашыстаўскую большасьць.

— 9 ліпня г. г. скончыўся ў Маскве 5-ты конгрэс камуністычнага інтэрнацыяналу. Старшынёю выканаўчага камітэту III інтэрнацыяналу выбраны Зіноўеў.

— У Румынскім пасольстве ў Лёндане адбыўся напад на румынскага пасла, зроблены румынскім студэнтам, які 2 разы стрэліў да пасла з рэвальвэра, ня прычыніўшы аднак ніякае шкоды.

— Эгіпэцкі прэм'ер-міністар Заглюль-паша цяжка ранены ў грудзі невядомаю асобаю, стрэліўшаю да яго з рэвальвэра надчас выезду з Каіру да Александрыі на сьвята „Вайраму“. Натаўп хацеў расправіцца самасудам з віноўнікам нападу.

— Савецкая дэлегацыя ў Лёндане дабілася, каб 10 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў, зьмешчаных царскім урадам у ангельскіх банках былі перапісаны на рахунак саветаў.

— Французскі й ангельскі паслы ў Афінах супольна падалі грэцкаму ўраду запрашэньне на лёнданскую конфэрэнцыю.

— **У Бразыліі** (Паўднёвая Амэрыка) рэвалюцыянэры, скінуўшы ўрад, захапілі гор. Сан-Паўлё з ваколіцамі. Неспакой адчуваецца і ў іншых часьцях дзяржавы. На чале часовага ўраду паўстанцаў стаў гэнэрал Рондон.

— Французскі сэнат выказаў вотум даверыя кабінэту Эрыо большасьцю 247 галасоў проці 18.

— Інтарэсы Чэхаславакіі на Лёнданскай конфэрэнцыі будзе бараніць чэскі пасол у Англіі Мастоні.

— Савецкі дэлегат у Кітайшчыне Карахан падаў протэст кітайскаму ўраду з прычыны таго, што „белы“ гэнэрал Глебаў з 30 казакамі заняў расейскае консульства ў Шанхаі, ня даўшы магчымасьці савецкім прадстаўніком увайсьці туды.

# Агляд прэсы.

Дэпутат Сойму і адзін з „Камітэту чатырох“, апрацаваўшага проект закону аб мовах нацыянальных меншасьцяў на усходніх крэсах, Станіслаў Грабскі пасьвячаець у „Gaz. Warszawskiej“ перадавіцу пад загалоўкам: „Кіраўнічая лінія Польскае акраіннае палітыкі“ проекту закону аб мовах, які цяпер прыняты ужо Соймам, і у сваёй перадавіцы між іншым піша:

Прынятыя ў Констытуцыйнай камісіі проекты законаў аб мовах у адміністрацыі, судзе і школе на ўсходніх крэсах, хаця-ж і не ахопліваюць усяе праблемы, а рэгулююць толькі частку яе, аднак яны стаўляюць вехі для прынцыпаў і кірунку ўсяе нашае акраіннае палітыкі.

І дзеля гэтага асабліва значаньне мае факт аднагалоснага прыняцьця гэтых проектаў усімі польскімі партыямі, за вынятком соцыялістаў, акія ўнесьлі папраўкі перш-на-перш проціў прынцыпу двухмоўнае школы, хаця-ж у часе трэцяга чытаньня таксама выказаліся за яе.

Спрэчка, якая часта пераходзіць у гарачую барацьбу, паміж польскімі партыямі аб польскай палітыцы на крэсах, — канчаецца.

Законы гэтыя ёсьць кампраміс. Аднак, аснаўны кірунак ня ёсьць кампрамісным, але агульным пераканаьнем польскіх партыяў. Выходзіць гэта ня з тэй ці іншай дактрыны, а з самых фактаў жыцьця, з якімі не здалее спрачацца ніхто ня сьмее цьвярдзіць, што трэбаваньні сельскае гаспадаркі ідуць проці інтарэсаў насяленьня, якое працуе ў іншых галінах прамысловасьці, што рэалізацыя гэтых трэбаваньняў давядзе да непамернага росту цэнаў на сельскія прадукты і г. д.

---

дарчаю большасьцю насяленьня. Творчая сіла якога не саўсім выкарыстана. Не знаходзячы працы ўнутры краю, часьць насяленьня эмігруе. Раней найбольш маладога здаровага насяленьня ехала ў Амэрыку, а цяпер выяжджаюць яшчэ рабочыя сілы і ў Францыю, чым аслабляецца абарончая здольнасьць дзяржавы. Эканамічны крызыс, закрыцьце большасьці фабрык і заводаў выклікае безрабоцьце. Вольныя рабочыя рукі могуць быць выкарыстаны толькі ў сельскай гаспадарцы, дзеля таго, што ў дзяржаве ёсьць яшчэ даволі неаброб-ленае зямлі. Сельская гаспадарка зьяўляецца і ў будучыне доўга яшчэ будзе служыць галоўнаю асноваю эканамічнага жыцьця Польшчы. Гэты факт павінен рашыць пытаньне аб кірунку й характары эканамічнае польскае палітыкі. Палітыка гэтая павінна імкнуцца да поўнага і ўсебаковага разьвіцьця ўсіх галінаў эканамічнага жыцьця і, перш за ўсё, сельскае гаспадаркі.

Нажаль у мінулыя пяць гадоў ўсё гэта ня бралася пад увагу. Інтарэсы сельскае гаспадаркі запаміналіся і ігнараваліся. Мытная палітыка абмяжоўваньня экспорту (вывазу) сельска-гасп. прадуктаў адрэзала сельск. гаспадарку ад заграцічных рынкаў, замкнуўшых яе ў вузкіх рамках унутранага рынку, ад чаго цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты хісталіся на 100%. Штучна трымаліся цэны на сельскія прадукты на роўні, не адпавядаўшым ні цэнам рэчаў прамысловага вытвару, ні цэпам на заграцічных рынках, ні сапраўднаму кошту вытвару. З дабываньнем штучнага ўдабрэньня былі вялікія труднасьці.

Ці-ж, нарэшце не ігнараваліся патрэбы сельскае гаспадаркі пры выдачы з Р. К. К. Р. і Р. К. О. крэдытаў, якія ў даных валютных варунках хутчэй назваць можна субсыдыямі. У той час, як прамысловасьць адтрымала ў 1923 г. гэткіх субсыдыяў на суму 41,785 мільярдаў марак, сельская гаспадарка пры ўсім стараньні дастала ўсяго толькі 2,831 мільярд марак.

З поўнаю аб'ектыўнасьцю трэба зазначыць, што ігнараваньне інтарэсаў сельскае гаспадаркі рашаўшымі фактарамі ў эканамічнай палітыцы ў працягу мінулых 5 гадоў фатальна адбілася на разьвіцьці сельск. гаспадаркі. Тэмп адбудовы й разьвіцьця сельскае гаспадаркі штучна быў затрыманы, абаротны капітал земляроба быў зьедзены падаткамі, ад чаго платніцкая і купляльная здольнасьць сельска-гасп. клясы гэтак панізілася, так што цяпер паўстае пытаньне, ці можа сельская гаспадарка выпаўніць тыя функцыі й задачы, якія падаюць на яе ў сувязі з агульным эканамічным палажэньнем дзяржавы.

Сельская гаспадарка ня мае замеру прыдаць нашай эканамічнай палітыцы аднабокі, выразна аграрны характар. Ня прывілеяў трэбуе сабе сельская гаспадарка, а роўнапраўя са ўсімі іншымі галінамі вытвару і працы, дзеля таго, што ўдача сельскае гаспадаркі залежыць ад удачы ўсіх іншых галінаў прамысловасьці. А дзеля гэтага ніхто ня сьмее цьвярдзіць, што трэбаваньні сельскае гаспадаркі ідуць проці інтарэсаў насяленьня, якое працуе ў іншых галінах прамысловасьці, што рэалізацыя гэтых трэбаваньняў давядзе да непамернага росту цэнаў на сельскія прадукты і г. д. Калі-ж дасюль не ў патрэбнай меры браліся ўрадам пад увагу патрэбнасьці сельскае гаспадаркі, дык у гэтым крыху вінаваты і самі земляўласьнікі. Гэта тлумачыцца слабым азнаямленьнем шырокіх сельскіх масаў з іхнімі патрэбнасьцямі, слабою дзейнасьцю сельска-гаспадарчых арганізацыяў, іхняю слабою зьвязанасьцю, адсутнасьцю контакту паміж сэнатарамі й пасламі, большасьць якіх адтрымала свае мандаты дзякуючы галасом сельскага насяленьня і адсутнасьцю дасюль шчыльнага сельска-гаспадарчага фронту. Канец усяму гэтаму павінен палажыць першы ў Польшчы сельска-гаспадарчы конгрэс.

Пасьля рэфэрату пасла Гасьціцкага выступаў цэлы рад іншых асобаў з гэткімі-ж самымі дакладамі, з якіх асабліва ўвагі заслужвае даклад Сталярскага, выступіўшага ў абарону малазямельных сялян.

Усе трэбаваньні, выражаныя ў прынятых конгрэсам рэзалюцыях стараліся зрабіць уплыў на зьмену ўрадовае палітыкі датычна сельскае гаспадаркі. Рэзалюцыі гэтыя прадстаўлены ўраду, як трэбаваньні 2/3 польскіх грамадзян.

*Канец.*

водзін паляк. Фактамі гэтымі ёсьць: 1) істнаваньне польскае дзяржавы і 2) пастаяннае супольнае жыцьцё польскага насяленьня з беларускім і украінскім насяленьнем на нашых усходніх крэсах, якія часткай уваходзілі ў межы Польшчы яшчэ ў часы Балеслава Храбрага, часткай па добрай воле далучыліся ў канцы XIV сталецьця. Такім чынам дзяржаўнай мовай заўсёды была польская. Асновай нашае палітыкі на крэсах ёсьць аднародны польскі характар рэспублікі.

Усходнія крэсы ня ёсьць такія тэрыторыі, якія захапілі ў другіх народаў. Таму Польшча не вядзець у адносінах да украінскага ці беларускага насяленьня палітыкі гвалтоўнае асыміляцыі, а стараецца аб'яднаць культуральныя, грамадзкія ды палітычныя іх імкненьні з з такімі-ж самымі польскае цывілізацыі. Дзеля гэта дапушчаюцца ўсе палёгкі.

А разам з тым скончацца й пазбаўленыя якога небудзь пляну ды рашучасьці дзеяньні дзяржаўнае ўлады і інстытуцыяў, якія ніколі ня былі запэўнены ў тым, што распараджэньні, выдадзеныя міністрам ня будуць адменены праз яго наступніка. І скончыцца таксама, што мае яшчэ большае значаньне, спэкуляцыя блёку нацыянальных меншасьцяў і заграніцы на нязгодзе ў самым польскім грамадзянстве...

Далей С. Грабскі піша, што дзяржавы, падзяліўшыя у свой час Польшу, зьніштожылі працэс аб'яднаньня польскага народу з украінскім і беларускім народам. Таму:

трэба гэтыя сьляды нявол: хутчэй зьніштожыць. Трэба выхаваць новае пакаленьне беларускага і украінскага насяленьня, здольнага для супольнага жыцьця ў Польшчы з Польшай.

Дзеля гэтага супольнага жыцьця можна выхаваць насяленьне тэрыторыяў з мяшанымі нацыянальнасьцямі толькі супольнай школай, у якой заўсёды будуць разам вучыцца беларускія і украінскія дзеці з польскімі пад кіраўніцтвам вучыцялёў, якія будуць служыць ідэалу аб'яднаньня, а не нацыянальнага сэпаратызму. Такім чынам, калі украінскае і беларускае насяленьне адчувае патрэбу ў навуцы на сваёй роднай мове, то гэта будзе дазволена не ў асобнай нацыяналістычнай школе, якая аддзяляець украінскіх і беларускіх дзяцей ад уплываў польскае цывілізацыі, — але ў школе двухмоўнай, якая будзе праводзіць адну думку і сьвецкую культуру сярод польскага і няпольскага насяленьня рэспублікі.

Дзеля гэтага, канчае аутор перадавіцы:

Польшча ня можа прызнаць у сваіх межах ніякіх нацыяналістычных сэпаратызмаў, бо яны ўрэшце выліваюцца ў імкненьні да нарушэньня яе межаў; але не вядзець таксама і палітыкі ўціску нацыянальнасьцяў. У межах Польскае рэспублікі кожная нацыянальнасьць можа разьвівацца вольна, абы толькі гэта разьвіцьцё вяло да мірнага супольнага жыцьця ўсіх грамадзян дзяржавы, а не да барацьбы ды нацыянальнай нянавісьці.

Гэткім чынам, мэта эндэцкіх кругоў—тая самая, толькі мэтоды п. Грабскага крыху навейшыя.

„Robotnik“ па гэтаму-ж самаму пытаньню, у сувязі з бурным паседжаньнем Сойму, на якім абгаварваліся тры проекты законаў аб мове, піша:

Кажучы па сутнасьці, учора была зроблена першая дзіра у цьвярдыні папярэдняе нацыянальнае палітыкі, якая складалася з таго, што патрэбы нацыянальных меншасьцяў ў мове цалком і бяз усялякае літасьці ігнараваліся. Учора пытаньне было скранута з мёртвага пункту, — і дарэмнымі будуць высілкі эндэкаў затрымаць пытаньне ў самым пачатку, каб перашкодзіць далейшаму няўхільнаму разьвіцьцю правоў нацыянальных меншасьцяў.

Гэтая-ж газэта, з прычыны тактыкі нацыянальных меншасьцяў, якія байкатуюць памяненыя проекты, піша:

Нацыянальныя меншасьці не ўнясьлі ў проекты някіх паправак і дэманстратыўна адмовіліся ад удзелу ў галасаваньні. Учора яны выявілі з усей яснасьцю нацыянальны радыкалізм, які ведае толькі барацьбу без усялякае думкі аб згодзе. Прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў не выступалі ўчора з якой-небудзь праграмай вырашэньня нацыянальных пытаньняў, апроч адʻемнай. І гэта паказвае, што нацыяналістычная барацьба цягнецца, як і раней, з шалёнай нянавісьцю. Бязумоўна, што ў гэтым іграюць ролю—простую і ўкосную, уплывы Радавае Расеі ў сувязі са зьмененай ёю ў апошні час крэсавай палітыкай.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

— Рэестрацыя чужаземцаў у Вільні пачнецца 19 ліпня і скончыцца 15-га жніўня.

— **Аб выезьдзе за граніцу.** Згодна з распараджэньнем Міністэрства Вайсковых Справаў, мужчыны 40—50 гадоў дастаюць заграничныя пашпарты без пазваленьняў Р. К. U., рэзэрвісты 28—40 гадоў дастаюць пашпарты без пазваленьня, але з паведамленьнем Р. К. U.; рэзэрвісты да 28 гад. павінны адтрымаць пазваленьне на выезд за граніцу ад Р. К. U.; мужчыны прызыўнога веку могуць выехаць за граніцу толькі пасьля дазволу ваеннага міністра, ў веку ад 18—20 гад. дастаюць пазваленьне ад мясцовага акружнога камандзера корпусу; мужчыны, якія карыстаюцца адсрочкамі па 64 арт. дастаюць пазваленьне ад камэнданта Р. К. U.; тыя, хто мае адсрочкі па іншых артыкулах — ад камандзера корпусу; асобы нездольныя да службы, альбо залічаныя ў апалчэнцы маюць права выяжджаць за граніцу без пазваленьня ваеннае ўлады; афіцэры рэзэрвы дастаюць пашпарты без пазваленьня.

— **Срок рэестрацыі афіцароў рэзэрвы.** 31-га сьнежня 1924 г. закрыта будзе рэестрацыя афіцароў рэзэрвы. Міністэрства Вайск. Справаў зьвяртае ўвагу ўсіх тых афіцароў рэзэрвы, якія яшчэ не зарэестраваліся, што паколькі да канца бягуч. году не зьявяцца да адпаведных Р. К. U. зарэестравацца, дык пасьля гэтага сроку трацяць права адтрымаць рангі афіцароў рэзэрвы і з дня 31. XII гэтага году будуць запісаны ў эвідэнцыі шэрэнговых.

— **Напад на купцоў.** 11-га ліпня на 14 кілемэтры Ашмянскага гасьцінца напалі на праяжджаўшых Абрама Германовіча і Іоселя Зярнова два бандыты, азброеныя вінтоўкамі і рэвальвэрамі, адабраўшы грошы й тавары. Вартасьць заграбленага яшчэ не выясьнена.

# Жыцьцё провінцыі.

**Мястэчка ДУКШТЫ, Браслаўскага павету.**

Дукшты — мястэчка пры самай чугунцы. Насяленьне складаецца з жыдоў, літоўцаў і стараверэў. Палякоў- таксама ёсьць троху (паліцыя, вураднікі ды пэрсональ Гуртоўні Крэсовай, але ня ўвесь); вось беларусаў Дукшты маюць менш за усіх, як кажуць сяляне, толькі на-завод.

Рыначнымі днямі, серадамі і пятніцамі, зьяжджаецца сюды з ваколіц шмат людзей з сенам, дрыўмі, сырамі, маслам, каровамі, яйкамі, аполкамі, авечкамі, курмі і іншымі гаспадарскімі вырабамі.

Чуваць найболей літоўскую мову, якая ў гэтым, а і Сьвянцянскім краі шмат мае беларускіх словаў, зьмененых на літоўскі лад.

Прыслухваючыся да гэтае мовы чуецца шмат рэзкіх, вострых выразаў, сама гаворка ня дужа ясная.

Калі прыглядзецца да характару Літоўцаў ды зраўняць з характарам гаворкі, дык — народ гэта памойму энэргічны значна болей, чымся беларускі, рэзкі, адважны, працавіты, багаты душой, але скупаваты, ня ўжыўчывы з суседзямі, эгоістычны і цьвёрды

Міжы сабою яны тут надта дружны; адно племя, адна рэлігія; яны ўсе каталікі і надта набожныя. Сьвятам поўныя касьцёлы імі бітком набіты (кажу аб Дукштах і Сьвянцянах). Старыя і малыя ўмеюць маліцца з кніжак, якія маюць надта багата выданьняў і толькі ў лацінскіх літарах прытарнованых на свой лад.

Прамовы у Дукштанскім касьцёле ксёндз (kunigas) мае па літоўску, толькі эвангэльле чытае і папольску.

Рэлігійныя песьні сьпяваюць пасвойму і іншымі тонамі. Яны дружна і прыгожа пяюць і ўтаруюць сабе; за ксяндзоў яны, а ксяндзы за іх гарой стаяць. Літоўцы выпісваюць шмат сваіх з Вільні газэт і ў хатах зьбіраючыся сумесна чытаюць і дыспутуюць аб прачытаным.

Часта на поле едучы селянін літоўскі бярэ апрача харчоўкі і газэтку ў кішэнь.

Гэткае ўпадабаньне іх да друку дае ім шмат карысьці, робіць іх сьвядомымі і знаёмымі са сьветам.

Сьмела можна сказаць, што літоўцы мелі сваю мінуўшчыну, а будуць мець мусіць і будучыну.

Ад гэтага народу ня шкодзіла-б нам, беларусам, пазычыць энэргіі, цьвёрдасьці характару і сьвядомасці.

*А. Пілігрым.*

# Навіны у тры радкі.

— У Адэскім губэрнскім судзе ўведзена жыдоўская мова.

— У Львове на мітынгу інвалід скончыў самабойствам з прычыны немагчымага матар'яльнага палажэньня.

— У Фінляндыі адчувалася землятрасеньне.

— У Чыкаго распачата будоўля дому ў 40 паверхаў.

— Саветы падпісалі гандлёвую ўмову з Пэрсіяй.

# БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ.

Выданьня У. Знамяроўскага можна набываць таньней, як усюды, у Клюбе Белар. Грамадзянскага Сабраньня, на Людвісарскай вул., 4.

Маюцца гэткія кніжкі:

У. Ігнатоўскі — Гісторыя Беларусі.

М. Гарэцкі — Гісторыя беларускае літэратуры.

А. Гарун — Сцэнічныя творы для дзіцячага тэатру.

М. Бурачок—Смык Беларускі.

„ — Дудка Беларуская.

А. Паўловіч — Снапок.

і інш.

# *Беларусы!*

*Чытайце і пашырайце газэту на сваей роднай мове — „Грамадзкі Голас“. Не шкадуйце грошай на падпіску, калі хочаце, каб да вашага голасу прыслухваліся!*

# *Грамадзяне!*

*Пішэце нам аб жыцьці нашых мястэчак і весак, як хто умее, падаючы толькі праўдзівыя факты. Карэспандэнцыі павінны быць з праўдзівым імем, прозьвішчам і адрэсам аўтора. Падпісаны-ж яны могуць быць псэўдонімам (выдуманым прозьвішчам). Аплата выдрукаванага матар'ялу залежыць ад Рэдакцыі.*

*Няпрынятыя у друк рукапісы назад вяртацца ня будуць.*

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: Язэп Салавей.

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.